*ІНТЭРВ'Ю З КАМПЕТЭНТНЫМ СУБЯСЕДНІКАМ*

# МУЗЫКА:

# ЧАС ДЫСКУСІЙ, ЧАС ПЕРАМЕН

**Наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА гутарыць з вядомым беларускім кампазітарам, лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, заслужаным дзеячам мастацтваў БССР Леанідам ЗАХЛЕЎНЫМ.**

*— Перабудова і абнаўленне адбываюцца цяпер у Савецкай краіне не толькі ў эканоміцы і сацыяльнай сферы, але і ў культурным жыцці. Пра вялікую ролю і разам з тым адказнасць літаратуры і мастацтва, сур'ёзныя праблемы і недахопы ў гэтай галіне, пра задачы, што стаяць перад дзеячамі культуры, востра гаварылася, у прыватнасці, на студзеньскім Пленуме ЦК КПСС. Які стан спраў у нацыянальнай музычнай культуры?*

— У канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў наш творчы Саюз значна «памаладзеў». Яго членамі сталі Уладзімір Прохараў, Віктар Помазаў, Уладзімір Солтан, Уладзімір Дамарацкі, Галіна Гарэлава, Уладзімір Кандрусевіч, Алег Залётнеў і іншыя. Уласна кажучы, 80-я гады ў беларускай музыцы ў пэўнай ступені сталі гадамі станаўлення цэлай плеяды маладых кампазітараў, яркіх творчых індывідуальнасцей. Маладое папаўненне заявіла пра сябе адразу і ўпэўнена творамі, у якіх выказала свае адносіны да фальклорнай спадчыны, да традыцый і гісторыі народа. Але, на жаль, гэта пакаленне не дало новага лідэра ў музыцы.

Лідэрамі па-ранейшаму засталіся нашы карыфеі Глебаў, Лучанок, Багатыроў, чые творы вызначылі ўзровень сучаснага беларускага музычнага мастацтва.

Дарэчы, стан спраў у розных жанрах неаднолькавы. Возьмем, да прыкладу, харавую музыку. У апошні час з'явілася надзвычай мала харавых твораў. Што, у сваю чаргу, адбілася на рэпертуары прафесійных і шматлікіх самадзейных калектываў Беларусі. Цяпер ужо робяцца захады да ўздыму аўтарытэту харавых спеваў у рэспубліцы. У Мінску будуецца спецыяльная пляцоўка — Пеўчае поле, дзе мяркуюць праводзіць канцэрты і фестывалі харавых калектываў.

Нядрэнна папрацавалі нашы кампазітары ў жанры песні. Беларуская песня стала папулярнай далёка за межамі рэспублікі дзякуючы ансамблям «Песняры», «Сябры», «Верасы», «Чараўніцы», такім выканаўцам, як Яраслаў Еўдакімаў, Валянціна Пархоменка, Валерый Кучынскі. Але зноў жа, наша эстрада адчувае востры дэфіцыт музычных калектываў, выканаўцаў — таленавітых, яркіх.

Вялікія надзеі мы ўскладаем на нядаўна створаны Дзяржаўны эстрадна-сімфанічны аркестр.

*— Наколькі творчы патэнцыял нашых кампазітараў адпавядае сённяшняму грамадскаму жыццю?*

— Трэба, відаць, не крывіць душой і сказаць, што наш сённяшні творчы патэнцыял не зусім адпавядае той высокай духоўнасці, якая пануе ў грамадскім жыцці. У краіне ідзе вялікая, сапраўды рэвалюцыйная перабудова ва ўсіх сферах. Грамадства ўжо не задавальняе шэрая безаблічная літаратура, шэрая невыразная музыка. Рэзка ўзраслі крытэрыі мастацтва. І хаця музыка — гэта не публіцыстыка, тым не менш яна павінна быць на пярэднім краі барацьбы за выжыванне чалавецтва ў наш ядзерны век, за выхаванне чалавека ў традыцыях гуманізму.

*— Якая, на ваш погляд, роля творчага Саюза, у даным выпадку — Саюза кампазітараў у арганізацыі музычнага жыцця рэспублікі, у стварэнні духоўнага клімату грамадства?*

— Калі казаць пра мінулае, хай сабе і недалёкае, то Саюз кампазітараў, на мой погляд, не ў поўнай меры выконваў сваю ролю арганізатара музычнага жыцця ў рэспубліцы. Жыў ён даволі замкнёна. Ну, узяць хаця б тыя праслухоўванні новых твораў, што адбываліся ў Саюзе. Збяруцца ўсе свае, паслухаюць, зробяць пару заўваг, і ўсё коціцца, як па рэйках. Думаецца, такая самаізаляванасць зрабіла кепскую паслугу беларускай музыцы, яе папулярызацыі ў слухача. Самі гэтыя праслухоўванні наладжваць трэба не толькі ў Саюзе, а выязджаць на заводы, інстытуты, да самай шырокай аўдыторыі, каб можна было публічна абмеркаваць твор. Менавіта Саюз павінен даць магчымасць пачынаючым аўтарам прадставіць на суд публікі свае эксперыментальныя работы. А яшчэ Саюз абавязаны быць ініцыятарам арганізацыі ў нас разнастайных фестываляў — класічнай, джазавай, народнай інструментальнай музыкі, фальклорнай, рок-музыкі.

*— Савецкай музыкай пройдзены вялікі шлях, сфарміраваліся яркія кампазітарскія і выканаўчыя школы. І тым не менш тысячы школьнікаў не ўмеюць слухаць і разумець музыку. Не сакрэт, што так званыя філарманічныя жанры перажываюць цяпер сур'ёзны крызіс на глебе дыскантакту са слухачамі, а моладзь аддае перавагу «музыцы для ног». У чым прычына такой з'явы? Як можна, на ваш погляд, змяніць сітуацыю?*

— Чаму школьнікі, моладзь, а часам і дарослыя не ўмеюць слухаць і разумець сур'ёзную музыку? Ды таму, відаць, у першую чаргу, што не атрымліваюць належнай музычнай адукацыі ў школе. І тут наша грамадства павінна прымаць экстранныя меры — у сістэме народнай адукацыі ёсць сур'ёзныя хібы. З другога боку, філармонія, наколькі я ведаю, арганізоўвае для школьнікаў лекторый, так званы лікбез па музыцы. Ідэя добрая, але форма яе, відавочна, устарэла. Як бачыце, зусім зразумела, чаму моладзь выбірае «музыку для ног»: яна не патрабуе работы душы, глыбокіх ведаў. Нагогул жа я не бачу нічога заганнага ў тым, што маладыя людзі захапляюцца рок-музыкай. Ёю захапляюцца людзі на ўсіх кантынентах. Кожны час нараджае свае рытмы. Дрэнна не тое, што моладзь любіць рок ці метал, а тое, што **толькі** рок і метал. Не трэба, лічу, року супрацьпастаўляць класіку. Наадварот, трэба зрабіць, каб людзі розных узростаў і схільнасцей змаглі, скажам, прыйшоўшы на канцэрт, пачуць лепшыя сімфанічныя ансамблі, рок- і джазавых выканаўцаў.

*— Апошнім часам у нас з'явілася нямала беларускіх рок-ансамбляў — «Бонда», «Сузор'е», «Магістрат», «Мінск», «Мроя». А ў Мінску працуе рок-клуб «Няміга». Многія з гэтых калектываў звярнуліся да нацыянальнай паэзіі як сучаснай, так і класічнай. Наколькі ўдалы такі сінтэз?*

— Я перакананы, што такі шлях у мастацтве можа быць плённым. Каб толькі гэта было мастацтва, а не падробка. Прынамсі, станоўчы момант ужо хаця б у тым, што ў сваіх пошуках моладзь звяртаецца да нацыянальнай культуры. Мне здаецца, што адзін з такіх калектываў — «Сузор'е» вельмі паспяхова працуе ў абраным напрамку. А «Бонда» з гонарам прадстаўляла нашу рэспубліку на леташнім віленскім рок-фестывалі «Літуаніка».

*— Леанід Канстанцінавіч, як вы ставіцеся да музыкі электроннай, камп'ютэрнай?*

Мае адносіны неадназначныя. З аднаго боку, гэта надзвычай цікавая з'ява. У электроннай музыкі вялікія перспектывы, магчымасці, з дапамогай сінтэзатараў і камп'ютэраў можна атрымаць вельмі арыгінальныя эфекты... Парадокс, дарэчы, што нават музычна неадукаваныя людзі дабіваюцца моцных эфектаў і ўздзеяння на слухачоў. Але камп'ютэрная музыка тым не менш ніколі не зможа замяніць натуральнае гучанне інструментаў, жывы гук скрыпкі, раяля.

*— У чым вы бачыце ролю мастака ў рэвалюцыйным абнаўленні нашага грамадства?*

— У час перабудовы ў Савецкім Саюзе ідзе сур'ёзная, свабодная размова ва ўсіх сферах творчасці. І ў музыцы таксама. Адкрыты шлюзы публічнасці. Арганізуюцца эксперыментальныя мерапрыемствы, якія змяняюць звычныя рысы музычнага быту. Перакідваюцца масты свабодных дыскусій паміж музычнымі антаганістамі. Здаецца, ніколі яшчэ не было столькі вострых дыскусій пра сучасную музыку ў самых розных аўдыторыях. Гэта і зразумела: цяперашняе савецкае грамадства, якое адвяргае дактрынёрства і сістэму забаронаў, адкрывае ўсе шляхі творчасці і яе ацэнкам. Але вось што мяне хвалюе — неразвітасць густаў маладзёжнай аўдыторыі, непатрабавальнасць, усёеднасць. Ці можна быць спакойным, калі ў наступленне ідзе масавая культура? І ў гэтай сітуацыі трэба задумацца, **што** савецкае мастацтва можа і павінна супрацьпаставіць маскультуры. Мастак, я лічу, павінен цяпер актыўна падключацца да дыскусій — у друку, па тэлебачанні, па радыё. Ну і самае галоўнае — пісаць музыку, вартую сваёй вялікай краіны, яе слаўнай гісторыі. Такую музыку, якая б вяла людзей за сабой, зачароўвала і вабіла іх. А гэта магчыма, на мой погляд, толькі тады, калі музыка будзе адпавядаць свайму часу і нават апярэджваць яго, выказваць думкі і мары ўсіх пакаленняў цяперашняга грамадства нашай краіны.

# СВЯТА Ў ГОНАР ПЕСНЯРА



Стала добрай традыцыяй праводзіць штогод у Мінскім цэнтральным дзіцячым парку імя М. Горкага гарадское свята паэзіі, прысвечанае Якубу Коласу. Сёлета яно было прымеркавана да 105-й гадавіны з дня нараджэння песняра.

...Гучаць з рэпрадуктараў беларускія народныя песні, творы паэта ў выкананні вядомых артыстаў рэспублікі. Гасцей парку запрашаюць на летнюю эстраду.

На сцэне — партрэт Якуба Коласа. Непадалёку — коласаўская фотавыстаўка.

Пад сцішаныя гукі цымбалаў (песня І. Лучанка «Мой родны кут...» у выкананні Т. Чанцовай) заслужаная артыстка БССР Р. Маленчанка прачытала ўступ да паэмы «Сымон-музыка».

Выступіў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Васіль Зуёнак. Ён расказаў пра плённасць уплыву творчасці песняра на беларускую літаратуру.

З увагай слухалі ўдзельнікі свята заслужанага работніка культуры БССР сына народнага паэта Данілу Міцкевіча. Ён прыгадаў даваенныя гады, калі на цяперашняй тэрыторыі парку стаяў дом Якуба Коласа, дзе гаспадар жыў з 1927 па 1941 год. Тут ім былі напісаны аповесці «Адшчапенец» і «Дрыгва», паэма «Міхасёвы прыгоды», некаторыя раздзелы паэм «Рыбакова хата» і «На шляхах волі», п'есы «Вайна вайне» і «У пушчах Палесся», многія вершы і апавяданні. Адсюль у першыя гадзіны фашысцкай навалы выляцеў крык паэтавай душы: «Шалёнага пса — на ланцуг!» Верш без перакладу змясціла газета «Правда» 24 чэрвеня 1941 года. Дом Якуба Коласа згарэў на трэці ж дзень Вялікай Айчыннай вайны ад бамбёжкі.

Прыгадаў свае сустрэчы з песняром лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы Мікола Аўрамчык і прачытаў верш «У доме Якуба Коласа». Гэта ў тым доме, дзе паэт жыў апошнія гады і дзе цяпер знаходзіцца музей.

Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Пятро Прыходзька нагадаў першую сустрэчу Коласа з Купалам. Адбылася яна ў 1912 годзе непадалёку ад вёскі Мікалаеўшчына, на хутары Смольня. Там працуе філіял музея народнага паэта. Увазе слухачоў прамоўца прапанаваў верш «Хата ў Смольні».

Слова-роздум пра неўміручасць вялікага песняра сказала маладая паэтэса Ала Канапелька і прачытала верш-прызнанне роднаму краю.

Са сцэны гучалі і творы самога Коласа. Іх выконвалі народная артыстка БССР М. Захарэвіч, заслужаныя артысты рэспублікі П. Дубашынскі і Р. Маленчанка, артыст Л. Улашчанка.

На святе выступілі «Крупіцкія музыкі» — фальклорны ансамбль калгаса «Новы быт» Мінскага раёна, лаўрэат Міжнароднага фестывалю народнай музыкі ў Югаславіі.

**НА ЗДЫМКУ: на свяце паэзіі выступае сын Я. Коласа Д. МІЦКЕВІЧ.**



**На лаўках, на зялёных лужках размяшчаюць свае міні-экспазіцыі брэсцкія мастакі. Так у горадзе ў выхадныя дні праводзяцца ў парку выстаўкі-продажы. Яны карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў гараджан і гасцей Брэста.**

**НА ЗДЫМКУ: на выстаўцы-продажы.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

# БАБІНА ЛЕТА Ў БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ





Яшчэ па-летняму цёпла, але ўжо — восень. Яна, як чараўніца, з'яўляецца ўсюды. Раніцай мы адчуваем яе халодны подых, бачым навісшыя малочныя туманы. Яна пакрывае золатам лісце бяроз, клёнаў, грабаў, ліп, робіць вогненнымі лісцікі асін, доўга яшчэ будуць рыжэць «чубы» ў дуба звычайнага і скальнага, які расце ў нашай рэспубліцы толькі ў Белавежскай пушчы.

Пасля першых асенніх замаразкаў пачынаецца лістапад у бярозы, а за ёю і ў некаторых іншых дрэў і кустоў. Паволі ападаюць асобныя лісцікі ясеня, вяза, асіны, чаромхі, яблыні... Асыпаюцца спелыя плады многіх раслін. Гэтаму садзейнічае і вецер, які стаў парывістым. Ён цяпер усё часцей шуміць лісцем. Красуюцца выспеўшымі гронкамі ягад рабіна, каліна, наліваюцца спелым сокам зямлі журавіны.

Прыйшоў верасень — цудоўны час «бабінага лета», напоўненага буйным цвіценнем верасу. Гэта мядовы месяц у лесе. Да гаючага паху жывіцы дабавіўся прыемны нямоцны пах верасу, багатага меданосным нектарам. Непаўторна прыгожыя бэзавыя дываны яго разаслаліся па ўсёй Белавежскай пушчы, па ўсяму Палессю. Прыемна дыхаць паветрам, напоеным пахам мёду і жывіцы. Верас, які месцамі пакрывае зямлю, у верасні, як у маі бэз, нікога не пакідае абыякавым. У паветры праплываюць лёгкія карункі з доўгіх сярэбраных ніцей павуціны — яшчэ адна характэрная прыкмета «бабінага лета». Гэта з яе дапамогай рассяляюцца маладыя павукі: прыйшла іх пара, і павуціна замяніла ім крылы.

У Белавежскай пушчы восень пачынаецца з яру зуброў, стогну ласёў і рову аленяў. Верасень — гэта асноўны вясельны іх месяц. Найбольш характэрнай і яркай карцінай з'яўляюцца шлюбныя канцэрты самцоў аленя, якія ідуць вечарамі і раніцамі, а ў ціхае і яснае месячнае надвор'е не заціхаюць і ўсю ноч. Іх трубны, непаўторны ў кожнай асобіны голас разносіцца па ўсёй Белавежскай пушчы. І стала ўжо даўняй традыцыяй тут улічваць аленяў менавіта ў час, калі яны равуць, што дае магчымасць атрымаць поўнае ўяўленне не толькі аб колькасці жывёлы, якая прымае ўдзел у размнажэнні, але і аб іх якасці — генафонд[illegible]. Назіранні вядуцца пастаянна, але раз у тыдзень правод[illegible] і адначасовы ўлік іх па ўсёй тэрыторыі пушчы (дн[illegible]неральнага ўліку). У ім, у прыватнасці, ёсць і такі, шт[illegible] заслугоўвае асаблівай увагі пункт: «На перыяд рову ал[illegible] (з 26 жніўня па 15 кастрычніка) забараніць уезд у [illegible]лавежскую пушчу з 19.00 да 8.00 усім відам транспарту [illegible] выключэннем траспарту асоб, якія ўдзельнічаюць у правядзенні ўліку...»

Чарнеюць узараныя палі. Закончыўся год у [illegible]ін. Іх рост спыніўся, а зялёны летні колер уступае месца [illegible]ураму, жоўтаму, чырвонаму. Растуць яшчэ грыбы, але іх разнастайнасць змянілася: з'явіліся асеннія віды, сярод іх найбольш масавыя — апенькі, зялёнкі, падзялёнкі.

Верасень — пара вялікіх і малых перасяленняў у прыродзе. Пасля замаразкаў пакідаюць сваю родную стыхію — ваду — жабы, трытоны: яны хаваюцца ў мох, у лясную падсцілку ці земляныя норы, дзе з надыходам халадоў упадаюць у спячку. Знаходзяць сховішчы змеі, яшчаркі, чарапахі. У глыбіню ідзе рыба. Але яшчэ ў празрыстай вадзе можна заўважыць, як сярод падводнай расліннасці прытаіўся шчупак. Стралой кідаецца ён на сваю ахвяру. Шчупак і акунь нагульваюць вагу на зіму, і цяпер добра ловяцца вудай і спінінгам.

У пошуках харчу качуюць і звяры. Некаторыя з іх, напрыклад, вавёрка, бабёр, хамяк, заклапочаны нарыхтоўкай корму на зіму. У барсукоў, янотападобных сабак, мядзведзяў і іншых млекакормячых, што зімой спяць, ідзе ўзмоцненае адкладанне тлушчу.

Чародкі пералётных птушак, «апранутых» пасля ліпькі ў новы ўбор, па знаёмых вякамі шляхах накіроўваюцца ў вырай. Клінам пранесліся ўжо ў небе жураўлі.

Ласуюцца яшчэ ягадамі, якія так шчодра дорыць восень, дразды. Насенне ягад не пераатраўляецца ў страўніках млекакормячых і птушак, не страчвае ўсходжасці. Жывёлы ў гэтым выпадку з'яўляюцца добрымі распаўсюджвальнікамі і «сейбітамі» насення тых раслін, ягадамі якіх яны харчуюцца. Напрыклад, нашы вечназялёныя кусты амялы, што паразітуюць на галінках дрэў, рассяляюцца толькі птушкамі зімой, галоўным чынам, яе паўночнымі гасцямі — амялушкамі.

Восень паўнаўладна ступіла на беларускую зямлю. Шчодра аддае прырода ўсё, што назапасіла на працягу лета: плады, ягады, гародніну, фрукты і, вядома ж, мноства разнастайных грыбоў, якія асабліва ўрадзіліся сёлета. Верасень — гэта асенні парад прыроды, дэманстрацыя дастатку, непаўторнай яркасці і багацця фарбаў.

**С. ШОСТАК,**
**кандыдат біялагічных навук.**





**Жыццё ў старэйшым запаведніку нашай краіны — Белавежскай пушчы — не замірае ні на імгненне. Зорнай восеньскай ноччу пракрычыць у зацішлым, вільготным хвойніку філін, завухкае сава...**

**Па багаццю флоры і фауны пушча не ўступае ніводнаму з запаведных лясоў Еўропы. Тут расце 900 відаў драўняных, хмызняковых і травяністых раслін, жыве амаль 200 зуброў, дзве тысячы высакародных аленяў, шмат дзікіх кабаноў, казуль, куніц, зайцоў, гняздзяцца больш за 200 відаў вадаплаўных і пеўчых птушак. Унікальны куток прыроды з'яўляецца своеасаблівым гадавальнікам, адкуль рассяляюць рэдкіх жывёл у іншыя лясныя ўгоддзі.**

**НА ЗДЫМКАХ: гаспадары пушчы — зубры; старшы [illegible] па ахове флоры і фауны У. ДАЦКЕВІЧ працуе ў пушчы ўжо 16 гадоў; лебедзі-шыпуны на возеры ў Пяршраўскім лясніцтве; верасиёўскі ранак.**



## ПРЫСВЕЧАНА ДЗЕКАБРЫСТУ

Пяць братоў-дзекабрыстаў дала нашай гісторыі сям'я Бястужавых. Адзін з іх Аляксандр Аляксандравіч Бястужаў-Марлінскі выступаў у друку як крытык, фельетаніст, аўтар аповесцей, перакладчык і паэт. У 1823—1825 гадах разам з Рылеевым выдаваў альманах «Полярная звезда», быў у сяброўскіх адносінах з Аляксандрам Пушкіным.

Адзін з перыядаў жыцця пісьменніка звязаны з Валожыншчынай. Зімой 1821—1822 гадоў полк, у якім служыў Бястужаў-Марлінскі, стаяў у Мінску і быў раскватараваны па суседніх паветах. Аляксандр Аляксандравіч пасяліўся ў Выганічах, у маёнтку небагатага памешчыка Вайдзевіча. Выганіцкі перыяд пакінуў асаблівы след у творчай дзейнасці А. Бястужава-Марлінскага.

У памяць пра гэтага мужнага сына Айчыны ў Выганічах прайшло нядаўна літаратурнае свята «Да мячоў рвануліся нашы рукі».

**У. ПАШКЕВІЧ.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 1382